 


# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 28 БЕЛАСТОК, 9 ВЕРАСНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.


СЁННЯ Ў НУМАРЫ:


IX ГОД НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ІНДЫІ – стар. 2

З СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ – стар. 3

ЗАБЫТЫЯ БАРАЦЬБІТЫ – стар. 4

БЕЛАРУСЫ ў ШЧЭЦІНЕ – стар. 5


ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

## Разважання пад дубам

Навагрудчына—зямля Адама Міцкевіча. З імям паэта звязаны кожны яе куточак, так як і яго творы. Ад таго яна ўдвайне цікава, сама па сабе і з увагі на радзіму паэта.

Ходзячы па ёй у памяці перагортваеш старонкі паэм і вершаў вялікага песняра, і супрацьпастаўляеш мінулае з сённяшнім.

У адным месцы рукою кранаеш цэлыя радкі вершаў, у другім — яны знікаюць і не можаш іх знайсці.

Той, хто паслухмяны радзе паэта накіруе свае крокі да Свіцязі, не знойдзе цёмнага плужынскага бору (не пашкадавала маляўнічых радкоў сякера цывілізацыі), аднак люстранае возера, якое і сёння «ляжыць паміж дрэваў цяністых», зачаруе яго міцкевічаўскімі фарбамі. Пра дзівосныя яго воды ні менш старога Блажэя можа расказаць дзядзька Чыркун — стары рыбак, які на возеры праводзіць амаль усё сваё жыццё.

А ў нядзельны дзянёк забудзеш пра міфічных русалак, азіраючыся за ні менш прывабнымі прыгажунямі з Навагрудка, Баранавіч, ці Мінска, якія тут чуюцца як дома. Успомніш тады чароўную баладу «To lubię», успомніш Юзя, які загінуў ад любві і захочаш адведаць яго магілу.

Тады ідзі ў напрамку Валеўкі —

*„...gdzie się kończą gaje,*
*W prawo łóz gęsty zarostek,*
*W lewo się piękna dolina podaje,*
*Przodem rzeczułka i mostek.*

*Tuż stara cerkiew, w niej puszczyk i sowy,*
*Obok dzwonnicy zrąb zgniły,*
*A za dzwonnicą chrośniak malinowy,*
*A w tym chrośniaku mogiły....“*

Тут усё, як у Міцкевіча. І мосцік, і царква, і могілкі.

Калі ты знаёміўся з гэтай баладай па перакладу, не здзіўляйся, што не знойдзеш «гарбатага мосціка» і «старых руін» царквы. Гэта дадаў ад сябе перакладчык. Прабач яму гэты грахі.

О, калі-ж ты маеш машыну, не задумвайся, бяры курс на Шчорсы!

Цікава гэта вёска па двум прычынам.

Тут у 1819—1820 г.г. правадзіў Міцкевіч канікулы. Тут вывучаў матэрыялы па гісторыі Польшчы, Літвы, і Беларусі, і выношваў планы патрыятычнай паэмы «Гражына». Табе абавязкова пакажуць дуб, пад якім напісаны паэтам першыя страфы паэмы.

Стаіць ён на ўскраі калгаснага двара, быццам вартавы двух стагоддзяў.

Пад ім уволю можна аддаца роздумам.

Калі роздумы перарве гук трактара, і ты перанясеш свой позірк на панадворак, гэта будзе другая прычына, па якой варта было прыехаць у Шчорсы, у калгас імя Варашылава.



*Камень філарэтаў у Туганавічах*

Калі цябе цікавіць тэхніка, акрамя трактара знойдзеш у калгасе 8 грузавых машын, 22 электраматораў, калгасную электрастанцыю. Калі цікавяць людзі — яны прымуць цябе ад усёй душы, ахвотна раскажуць аб сваім жыцці, падзеляцца думкамі і вопытам.

Мяне яны засыпалі лічбамі. Ад гэтых лічбаў закруцілася мне ў галаве. Я запісваў іх механічна не ўсвядамляючы сабе што за імі крыецца.

Лічбы для чалавека які ніколі не меў дачынення з бухгальтэрыяй слаба ўздзейнічваюць на яго ўяўленне а вялікі лік іх уводзіць у хаос.

Цяпер, калі перагортваю і перадумліваю гэтыя нататкі за калонамі лічб — бачу жывых людзей.

Бачу калгасніцу Краскоўскую Вольгу, якая ў гэтым годзе атрымала самай прэміі 18 тысяч рублёў. У рубрыцы «прэміі» пад лічбай 28 тысяч рублёў стаіць прозвішча Іван Кумец. Бачу яго новы дом, матацыкл, бачу яго ашчадную кніжку, у якой запісан астатак прэміі. Бачу ні менш відных калгаснікаў: Сцяпана Каляду, Аляксандра Чарняўскага. Бачу людзей у якіх няма горшага пакарання, калі не прымуць на два дні на працу.

Так, так — гэта сама горшая кара.

— Дзіўныя людзі — скажуць некаторыя.

— Нам-бы такую кару — дабавяць гультаі. «Філосафы» могуць дашуквацца якісьці надзвычайных якасцей у характары гэтых людзей і прыпісваць гэты факт недаступнаму для нас, маральнаму ўзроўню совецкіх людзей. Скажуць, што на «даным этапе» увесці ў нас гэты звычай немагчыма, людзі не дараслі, ды і наогул спецыфіка польскай вёскі, «мэнтальнасць» польскага селяніна, жыўцом нельга пераносіць совецкіх метадаў і г. д. і т. п.

Агульна вядомыя фразы.

Пытаюся, чым-жа надзвычайным адрозніваецца калгаснік з калгаса імя Варашылава ад каапэратыўшчыка з Беласточчыны?

У аднаго як і ў другога аднолькавы гістарычныя ўмовы. Тая-ж самая «мэнтальнасць». Аднолькавы жыццёвы старт. Узгадавала іх адна маці-зямля.

А метад працы для аднаго пасуе, для другога не.

У чым-жа справа? А справа не ў метадах.

Калі-б нашым арганізатарам сельскай гаспадаркі задаць пытанне, ці магчыма каб на 927 га. добра гаспадарыў каапэратыў у складзе 536 двароў (даныя з калгаса імя Варашылава), адкажуць, што немагчыма, мала зямлі.

Такія думкі былі і ў сялян са Шчорсаў, калі арганізаваўся калгас. Здараліся нават варожыя выступленні.

Як пра далёкае мінулае, успамінаюць аб гэтым калгаснікі. Гэта былі гады 1948—50.

Мінула пяць год і кожны калгаснік лічыць самай вялікай карай, калі яго не прымуць да працы.

Што-ж гэта такое? А тое, што ён адчуў вялікае матэрыяльнае зацікаўленне ў працы. Пачаў добра зарабляць.

Вось як складваўся даход калгаса:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1951 год | — 615.000 | рублёў; | |
| 1952 „ | — 1.275.000 | „ | ; |
| 1953 „ | — 3.875.000 | „ | ; |
| 1954 „ | — 4.170.000 | „ | ; |
| 1955 „ | — 5.777.000 | „ | ; |

Чым вытлумачыць гэта ўсё ўзрастаючы даход? Тым, што тут уводзяцца ўсё новыя культуры, а самай даходнай аказаўся лён — галоўная крыніца багаццяў калгаса.

Ці не варта над гэтым задумацца нашым каапэратывам?

Калі параўнаць гаспадарчыя пабудовы гэтага калгаса — мільёнера з такімі пабудовамі нашых каапэратываў, такое параўнанне выпадзе на карысць нашых пабудоў. Будуецца тут хоць і дабротна але не ўсё адразу.

А ў нас самы заняпалы каапэратыў, а калі справа ў пабудовах, то безумоўна павінен будавацца фундаментальна, калі да гэтага ні мае ніякіх умоў. Ці гэта не адбіваецца на даходах каапэратыўшчыкаў, а тым самым і на іх матэрыяльным зацікаўленні ў працы?

Ці не варта і над гэтым падумаць?

* * *

Стаіць на калгасным двары дуб, пад якім вялікі славянскі паэт раздумваў аб лёсах польскага і беларускага народаў. Няхай-жа ў пошуме яго лістаты ўсё часцей гучыць гутарка на мовах абодвух народаў.

СЕРГЕЙ ЕСЕНИН

## СОБАКЕ КАЧАЛОВА

Дай, Джим, на счастье лапу мне,
Такую лапу не видал я сроду.
Давай с тобой полаем при луне
На тихую, бесшумную погоду.
Дай, Джим, на счастье лапу мне.

Пожалуйста, голубчик, не лижись,
Пойми со мной хоть самое простое.
Ведь ты не знаешь, что такое жизнь,
Не знаешь ты, что жить на свете стоит.

Хозяин твой и мил, и знаменит,
И у него гостей бывает в доме много,
И каждый, улыбаясь, норовит
Тебя по шерсти бархатной потрогать.

Ты по-собачьи дьявольски красив,
С такою милою, доверчивой приятцей.
И, никого ни капли не спросив,
Как пьяный друг, ты лезешь целоваться.

Мой милый Джим, среди твоих гостей
Так много всяких и не всяких было.
Но та, что всех безмолвней и грустней,
Сюда случайно вдруг не заходила?

Она придет, даю тебе поруку,
І без меня, в ее уставясь взгляд,
Ты за меня лизни ей нежно руку
За все, в чем был и не был виноват.

 

